№№1–2
(3540–3541)

3 студзеня 2012 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

НАВАГОДНІ ЛІСТ

## Мы — разам!



Так, шаноўныя сябры: мы разам крочым далей!

І прыемна, што ў 2012-м нас стала болей. Далёка не кожная газета можа пахваліцца прыростам тыражу, а мы можам: шэрагі падпісчыкаў "Народнай Волі" папоўніліся больш як на 500 чалавек! Вялікі дзякуй усім, хто вырашыў уліцца ў нашу сям'ю! Дзякуй таксама тым, хто не здрадзіў "Народнай Волі" і па-ранейшаму застаўся нашым чытачом! Руку на моцную дружбу, прыхільнікі свабоднага слова! Не падвядзём, спаўна апраўдаем ваш давер.

І — з Новым годам!!! А таксама з Калядамі!!!

Няхай Дракон не пужае вас, а становіцца саюзнікам у добрых справах.

Няхай вашы сэрцы поўняцца радасцю ад працоўных і творчых перамог, ад здзяйснення мар і рэалізацыі вялікіх планаў!

Няхай ваша жыццё не азмрочваецца стратамі і паразамі, развітаннямі з роднымі і блізкімі людзьмі!

Няхай 2012 год наблізіць нас усіх да самага запаветнага — да **беларускай Беларусі!** Розным крумкачам — не лятаць над нашым родным краем!

"Народная Воля" — ваша заступніца, ваша верная памочніца ў вырашэнні найскладанейшых жыццёвых праблем. Калектыў рэдакцыі марыць пра той час, калі газета будзе жаданай госцейкай у вашых дамах не два разы ў тыдзень, а часцей. На вялікі жаль, пакуль такой магчымасці няма. Бюджэт згінаецца пад бязмерным цяжарам расходаў. Яшчэ год таму былі спадзяванні на стабілізацыю цэн на паперу. Але абрынуўся фінансавы крызіс — і газетная папера стала, можна сказаць, залатой. Каб выжыць, паліграфісты паднялі свае тарыфы, сувязісты — свае, транспартнікі — свае. Дзясяткі мільёнаў рублёў ідуць штомесяц на падаткі. Адным словам — куды ні кінь, усюды клін. Таму, нашы любыя сябры, у гэтым годзе, хутчэй за ўсё, не ўдасца часцей сустракацца, але спадзяванні на лепшае не пакідаюць нас.

Чым кампенсуем? Прафесіяналізмам і пазіцыяй. Пад дахам "Народнай Волі" — лепшыя пёры. З'явяцца і новыя цікавыя аўтары. У планах — значныя праекты, яркія героі публікацый, вострыя, актуальныя тэмы. Як і раней, будзем надзвычай адказна ставіцца да кожнага слова, да кожнага факта. Мы, у каторы раз паўтараю, служым не ўладзе, не партыям, не алігархам, мы служым вам, паважаныя чытачы. І аб'ектыўнае, праўдзівае асвятленне сённяшніх і заўтрашніх падзей, жыцця ў цэлым — наша святая задача. Вядома ж, падчас напружанай працы магчымы і нейкія хібы, памылкі. Паверце, яны не застануцца па-за нашай увагай, з вашай дапамогай будуць своечасова выпраўлены з адпаведнымі высновамі.

2012 год — асаблівы для Беларусі. І хочацца верыць, што "Народная Воля" разам з вамі, шаноўныя сябры, наблізіць той дзень, калі апошні палітзняволены пакіне турму. "Народная Воля" скіруе ўсе намаганні і на тое, каб, нарэшце, у нашай краіне адбыліся сапраўды дэмакратычныя, сапраўды народныя выбары. Пад пільным прыцэлам застанецца і эканамічная тэматыка. Дойдзем, дойдзем мы да заводаў і фабрык, сельскагаспадарчых прадпрыемстваў і будаўнічых арганізацый, фірм і кампаній... Нельга мірыцца з тым, што з Беларусі сотнямі тысяч з'язджаюць людзі ў росквіце сіл толькі таму, што не могуць зарабіць на радзіме на годнае жыццё. А ці ж можна пагадзіцца з тым, што ў нас сярэдні памер пенсіі амаль у тры разы меншы, чым у суседзяў-расіян? Што, сённяшнія нашы пенсіянеры былі нейкімі зломкамі, горш працавалі, менш прынеслі карысці дзяржаве?

Газета не ўрад, не Міністэрства эканомікі... У той жа час "Народная Воля" не староння назіральніца, не выданне, для якога важней прыслужваць некаму аднаму ці адной-другой групе, "Народнай Волі" важна служыць усяму свайму народу, усёй сваёй Беларусі. Пазіцыя "Народнай Волі" не разбуральная, а стваральная. Пазіцыя сур'ёзная, правераная часам і вялікімі выпрабаваннямі.

### Вы — з «Народнай Воляй», «Народная Воля» — з Вамі!

Яшчэ раз з Новым годам, дарагія сябры! Лепшых, шчаслівых дзён Вам!

**Іосіф СЯРЭДЗІЧ,
заснавальнік, выдавец і галоўны рэдактар газеты "Народная Воля".**

ПУЛЬС

## Год пачаўся з судоў

У панядзелак 2 студзеня ў Мінску зноў судзілі грамадскіх актывістаў. Так, былы палітзняволены, актывіст кампаніі "Гавары праўду!" **Павел Вінаградаў** быў асуджаны на 7 сутак.

Грамадскі актывіст быў затрыманы 30 снежня, калі прыйшоў па выкліку ў Маскоўскі РУУС. Новы год ён правёў у цэнтры ізаляцыі правапарушальнікаў на Акрэсціна. Яго абвінавацілі ў лаянцы.

**Насту Шулейка** затрымалі каля ізалятара на Акрэсціна, дзе ў апошні дзень года актывісты сустракалі сваіх сяброў, якія апынуліся за кратамі 19 снежня — у гадавіну прэзідэнцкіх выбараў. Наста таксама сустрэла Новы год за кратамі. У панядзелак ёй прысудзілі штраф 700 тысяч рублёў.

Справа яшчэ аднаго актывіста — **Алеся Крата** — адпраўлена на дапрацоўку, а сам ён да суда, які мае адбыцца 12 студзеня, адпушчаны.

## Упаўнаважаны вырашыць

У Беларусі можа з'явіцца новая дзяржаўная пасада — упаўнаважаны па правах дзіцяці.

*"Увядзенне інстытута ўпаўнаважаных па правах дзіцяці ініцыявалі некаторыя дэпутаты і члены Савета Рэспублікі. Гэтая ініцыятыва разглядаецца. Думаю, што на працягу года будзем шукаць падыходы да яе рашэння",* — сказаў журналістам старшыня Палаты прадстаўнікоў **Уладзімір Андрэйчанка**.

## Рэкардсмен

У дачыненні да старшыні Блонскага сельвыканкама заведзена 115 крымінальных спраў па фактах атрымання хабараў і крадзяжоў грашовых сродкаў пры выдзяленні зямельных участкаў у Пухавіцкім раёне.

Пра гэта паведаміла барысаўская раённая газета "Адзінства" ў матэрыяле з пасяджэння райвыканкама. Аб карупцыі ў Барысаўскім раёне і Мінскай вобласці на пасяджэнні райвыканкама распавялі начальнік РУУС **С.В.Ардзяльянаў** і пракурор раёна **А.А.Аўдзей**.

## Пагулялі

У Брэсце ад петарды пацярпела нават аднагадовае дзіця. Яшчэ двое школьнікаў 2004 нараджэння па гэтай жа прычыне атрымалі траўмы ў Лоеўскім раёне і Мінску. У Мінску дапамога медыкаў спатрэбілася таксама пяці дарослым.

Усяго ў навагоднюю ноч пры выкарыстанні піратэхнікі атрымалі траўмы рознай ступені цяжкасці і шпіталізаваны ва ўстановы аховы здароўя 15 чалавек.

## Пераезд адкладваецца

Польская амбасада ў Мінску атрымала дазвол на часовае карыстанне будынкам, які займае цяпер. Раней амбасада паведамляла, што беларускія ўлады не працягнулі дамову арэнды.

Першы сакратар амбасады **Павел Марчук** паведаміў журналістам: *"МЗС Беларусі праінфармаваў нас аб тым, што працягвае дамову на арэнду будынка, які цяпер займае амбасада на вуліцы Румянцава, 6. У ім мы застанемся да паловы наступнага года, пасля чаго пераедзем на часовы адрас па вуліцы Бядулі. Там мы застанемся, пакуль не будзе збудаваны новы будынак амбасады. Участак, які прапанавалі беларускія ўлады, знаходзіцца ў прэстыжным цэнтры Мінска".*

Да пераезду на новае месца амбасада будзе працаваць па старым адрасе.

## Беларускі легкавік будзе кітайскім?

Інвестыцыйны праект па стварэнні вытворчасці легкавых аўтамабіляў у Беларусі падпісаны з кітайскай кампаніяй "Джылі". Аб гэтым паведаміў намеснік міністра эканомікі Беларусі Аляксандр Ярашэнка.

*"З удзелам кітайскага боку падпісаны інвестыцыйны праект па стварэнні легкавых аўтамабіляў кітайскай кампаніяй "Джылі" разам з ААТ "БелАЗ",* — сказаў чыноўнік.

Нагадаем, што гэта не першая спроба наладзіць у нашай краіне вытворчасць легкавых аўто, але ўсе яны не мелі поспеху.

## Сезон закрыты

Скончыўся паляўнічы сезон на цэлы шэраг лясных жывёл.

Забараняецца паляванне на лася, высакароднага і плямістага аленя, дзіка, еўрапейскую казулю і лань. Парушальнікаў закона чакая адказнасць аж да ўзбуджэння крымінальнай справы.

З-ЗА КРАТАЎ

## Над Статкевічам новы суд

На 12 студзеня прызначаны новы суд над Мікалаем Статкевічам. Палітвязню пагражае прызначэнне больш жорсткага турэмнага рэжыму за нібыта рэгулярныя парушэнні турэмнай дысцыпліны.

Пра гэта паведаміла жонка палітыка Марына Адамовіч са спасылкай на афіцыйны дакумент, які атрымала з калоніі.

*"Мяркую, яго адправяць ў Магілёўскую крытую турму ўжо 13 студзеня, бо якраз на гэты дзень туды прызначаны этап",* — кажа Марына Адамовіч.

Нагадаем, што, як сцвярджаюць родныя, ціск на Статкевіча павялічыўся пасля ягонай адмовы пісаць прашэнне аб памілаванні на імя Аляксандра Лукашэнкі. Як паведаміла Марына Адамовіч, у снежні Мікалай Статкевіч быў змешчаны ў карцар за тое, што ў ягоных рэчах знайшлі не пазначаныя ў спісе насоўкі, а потым вязня пакаралі яшчэ тройчы за тое, што ў карцары ў яго не аказалася індывідуальнай таблічкі з прозвішчам.

## Мінскія педагогі атрымаюць даплаты. Але мізэрныя

Работнікі ўстаноў адукацыі, фізкультуры і спорту Мінска ў 2012 годзе будуць атрымліваць штомесячныя даплаты ў памеры ад 1 да 3 базавых велічынь. Прасцей кажучы, даплаты складуць ад чатырох да 12 долараў.

Такое рашэнне прыняў Мінгарсавет.

БЛИЦ

*В России этот вопрос решен однозначно: сам кандидат в президенты В.Путин дал указание оснастить все избирательные участки камерами круглосуточного видеонаблюдения.*

*А у нас? Похоже, эта проблема даже не ставится на обсуждение широкой общественностью. А потому "Народная Воля" первой обратилась к электорату с вопросом:*

## Нужно ли на избирательных участках в Беларуси ставить камеры круглосуточного видеонаблюдения?

**Олег ТЫЧИНО,** *дальнобойщик (Лепель):*

— Сомневаюсь, что при существующей избирательной системе даже установка видеокамер на всех избирательных участках Беларуси что-то изменит. Не будут же каждый бюллетень подносить к камере, чтобы было понятно, за кого отдан голос. Пока в составе участковых избирательных комиссий в равных условиях не будут находиться представители всех кандидатов, о честных и прозрачных выборах нам остается только мечтать...

**Александр ЗОЛОТАР,** *экс-депутат Фанипольского городского совета депутатов:*

— Без толку. Даже если камеры будут работать круглосуточно, избежать фальсификаций будет сложно. Во-первых, потому что ночью никто не разрешает наблюдателям находиться на участках. Во-вторых, любую видеозапись можно смонтировать...

**Ефим ХРАПУНОВ,** *бывший начальник бюро по проектированию и эксплуатации оборудования завода "Гомсельмаш":*

— На мой взгляд, предложение это на сто процентов верное. Установка видеокамер на всех избирательных участках Беларуси позволит избежать разговоров о том, были или не были сфальсифицированы итоги выборов. Если власть на самом деле сильна, то следующие выборы в Палату представителей должны пройти с видеонаблюдением. Такой контроль за выборами ответит на многие вопросы, в том числе и на вопрос, кого на самом деле поддерживают избиратели.

**Юрий БЫЧКОВ,** *инженер-строитель:*

— Безусловно. Кроме того, хорошо было бы принять закон, в котором было бы прописано, что видеозаписи, сделанные на избирательных участках, являются доказательством в суде. Тогда бы председатель и члены конкретной избирательной комиссии четко знали: за фальсификацию — под суд. А если же ничего на самом деле не фальсифицируется, то у власти был бы в руках большой козырь: мол, убедитесь, все было честно...

**Алексей МАРХВИДА,** *администратор компьютерных сетей:*

— Не вижу в этом смысла. Все привыкли к тому, что голоса избирателей не считаются, а в итоговые протоколы вписываются нужные определенным кандидатам цифры. Видеонаблюдение ничего не изменит. До тех пор пока в каждой избирательной комиссии не будет по представителю каждого из кандидатов, рассчитывать на честные выборы нельзя.

**Александр ПАШКЕВИЧ,** *историк:*

— Думаю, что видеокамеры на участках не навредили бы. Было бы меньше возможностей для манипуляций с бюллетенями, особенно с вбрасыванием бюллетеней в урны во время досрочного голосования. В то же время я бы не стал относиться к установке видеокамер как к некой панацее. Есть большое подозрение, что основные фальсификации не всегда совершаются путем вброса бюллетеней.

**Светлана ДОМАНОВА,** *пенсионерка:*

— Камеры круглосуточного видеонаблюдения обязательно нужны. Доверие к власти в Беларуси настолько подорвано, что даже кристально проведенные выборы вызовут вопросы. За последние годы власть себя сильно дискредитировала, ей понадобятся годы, чтобы вернуть доверие народа. Установка видеокамер на избирательных участках — один из шагов к прозрачности выборов. Если власти на самом деле скрывать нечего, то пусть покажет всем, как проходят выборы в Беларуси.

**Сергей БУДКИН,** *музыкальный журналист, редактор интернет-портала "Тузін гітоў":*

— Нужно ставить. Хотя бы для того, чтобы была возможность видеть, что происходит на избирательных участках по ночам, когда там нет никого, кроме охраны, выставленной "вертикалью", которая напрямую заинтересована в результатах выборов.

**Юрий АЛЕКСАНДРИН,** *инженер по автоматическому управлению:*

— В качестве эксперимента попробовать можно. Выборы — это единственный легальный инструмент для реализации конституционного права человека избирать и быть избранным. Только через выборы можно поменять власть. А у нас после каждых выборов власть утверждает, что все было честно и открыто, но оппозиция говорит о тотальных фальсификациях. Думаю, что на самом деле истина где-то посередине. Установка видеокамер сделает избирательный процесс более прозрачным — станет понятно, сфальсифицированы выборы или нет. Если власти на самом деле нечего бояться и прятать, то почему бы не поставить видеокамеры на всех избирательных участках страны?

**Опрос проводил
Виталий ГАРБУЗОВ.**

ЧУЛІ?

## Юрый ЗІСЕР: «Я 20 гадоў кірую фірмай і проста стаміўся»

Генеральны дырэктар ААТ "Тут бай медыя" (інтэрнэт-партал Tut.by) Юрый Зісер паведаміў на сваёй старонцы ў "Фэйсбуку", што ён *"узяў творчы адпачынак"* і сышоў з гэтай пасады.

Як высветлілася, *"гэтае рашэнне спела даўно".*

Адзін з самых паспяховых беларускіх бізнесменаў на рынку інтэрнэт-тэхналогій узяў нешта накшталт творчага адпачынку — да восені. Але, згодна з беларускім заканадаўствам, такога паняцця, як „творчы адпачынак", няма, таму сыход аформлены звычайным звальненнем. Больш як на месяц браць адпачынак не дазволена, нават за свой кошт. Выконваць абавязкі дырэктара будзе былая намесніца Юрыя Зісера па прававых пытаннях Людміла Чэкіна.

*"Сам я тым часам вылятаю адпачываць, у лютым буду падарожнічаць у экзатычных краінах. Ну і спадзяюся пачаць пісаць кнігу",* — паведаміў Юрый Зісер.

*Станіслаў БАГДАНКЕВІЧ:*

## «З помпай адзначу 100-годдзе...»

*1 студзеня адзначыў свой 75-гадовы юбілей экс-старшыня Нацыянальнага банка Беларусі, ганаровы сябра Аб'яднанай грамадзянскай партыі, прафесар* ***Станіслаў БАГДАНКЕВІЧ.*** *"Народная Воля" таксама павіншавала юбіляра...*



**— Станіслаў Антонавіч, вам ужо 75 ці яшчэ 75?**

— Напэўна, ужо, бо асноўная частка жыцця прайшла.

**— Як адзначылі дату?**

— Спакойна. Я ўсе свае дні нараджэння адзначаю ў навагоднюю ноч, так што было звычайнае сямейнае мерапрыемства. 75 гадоў — гэта ж не круглая дата. Вось сваё 100-годдзе адзначу па-сапраўднаму, з помпай.

**— Ці павіншавалі вас прадстаўнікі ўлады?**

— Толькі старшыня Нацыянальнага банка Надзея Ермакова даслала віншавальную паштоўку. Павіншавала і з юбілеем, і з Новым годам. А больш з прадстаўнікоў улады ніхто не ўспомніў.

**— Незвычайныя падарункі ад блізкіх былі?**

— Унукі падарылі мне падушку з грэцкім шалупіннем, якая, кажуць, выганяе з галавы дурныя думкі. Сын з жонкай — электронную кніжку. Грошы сувенірныя дарылі. Мабыць, з падтэкстам, з-за таго, што ў фінансавай сістэме працаваў.

**— Што вам сёння часцей за ўсё ўзгадваецца з вышыні пражытых гадоў?**

— Галоўным сваім дасягненнем я лічу тое, што ў мяне шмат прыстойных сяброў, якімі краіна можа ганарыцца. Гэта Станіслаў Шушкевіч, Мечыслаў Грыб, Міхаіл Чыгір, прафесар Манаеў, прафесар Драздоў, мае сябры па ўніверсітэце і партыі... Усіх не пералічыш. Думаю, для краіны я зрабіў шмат добрага. Я аўтар многіх банкаўскіх законапраектаў. Сваёй заслугай лічу і стварэнне нацыянальнай валюты, меры па стабілізацыі сітуацыі пасля таго фінансавага хаосу, што быў пасля развалу Саюза, адмову ад увядзення расійскага рубля на тэрыторыі Беларусі. Прымаў удзел у стварэнні Аб'яднанай грамадзянскай партыі разам са сваімі сябрамі-калегамі Аляксандрам Дабравольскім і Васілём Шлындзікавым. У мяне, дарэчы, білет нумар адзін у партыі. Адным словам, ёсць што ўспомніць.

**— Для 75 гадоў вы выглядаеце вельмі добра. Падзяліцеся сакрэтам...**

— Адразу скажу, што спортам я не займаюся, але люблю пагуляць пехатой. Я заўсёды ўспамінаю Чэрчыля, калі той успамінаў пра свой узрост. Ён казаў, што яго сілы падтрымліваюцца жанчынамі, віном і цыгарамі. І нічога — 91 год пражыў. Гэта я да таго, што, напэўна, кожнаму сваё наканавана.

**— Як сёння ваша здароўе? Як сябе пачуваеце?**

— Нармальна пачуваю.

**— Што б хацелі пажадаць самому сабе?**

— Працягваць у тым жа духу. У мяне добрая сям'я, добрыя сябры, цудоўныя калегі. Трэба захаваць гэтае асяроддзе і гэты дух. Гэта самае каштоўнае ў жыцці, дык што яшчэ больш трэба чалавеку?

**Алесь СІВЫ.**

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА

Борис ЖЕЛИБА, доктор экономических наук, профессор



# Шуба с барского плеча

Как убеждает нас официальная статистика, объем внутреннего валового продукта (ВВП) Беларуси растет. За январь—ноябрь он якобы увеличился в сопоставимых ценах на 5,8% к уровню аналогичного периода прошлого года.

Но что такое "в сопоставимых ценах"? Надо понимать, это — без учета инфляции, то есть как будто у нас и не было трехкратной девальвации белорусского рубля.

Словом, странная статистика. Хотя такой показатель, как валовой внутренний продукт, имеет судьбоносное значение для страны. Ведь именно по отношению к ВВП рассчитывают целый ряд важнейших макроэкономических параметров государства и безопасных их норм. К примеру, дефицит бюджета не должен превышать три процента ВВП, отрицательное сальдо торгового баланса (если уж оно есть) рекомендуется укладывать в пять процентов ВВП, внешний государственный долг не должен превышать 50—60% ВВП. Поэтому то, как наша официальная статистика подаст объем ВВП за весь 2011 год, — вопрос далеко не праздный. Она, кстати, очень любит оперировать нашим ВВП, рассчитанным по так называемому паритету покупательной способности — величине совершенно теоретической, предназначенной больше для научных исследований. Любит, потому что рассчитанный таким образом ВВП в разы больше того, который определяют по номинальному обменному курсу доллара, что сегодня более или менее точно отражает официальный курс Нацбанка.

Так вот, если мы разделим ожидаемый ВВП Беларуси за 2011 год на 8500 рублей, то получим его в долларах в сумме 32 млрд (приблизительно 272 трлн руб.: 8,5 тыс. руб). Тогда доля нашего внешнего государственного долга, составляющего на 1 ноября не менее 12 млрд долларов, составит 37,5%. Но при этом еще следует добавить к данному государственному долгу полученный синдицированный (консорциональный) кредит в размере 1 млрд долларов от российского Сбербанка и Евразийского банка развития (хотя формально он выделен "Беларуськалию", конечный ответчик все равно будет правительство) и 440 млн долларов кредита Антикризисного фонда ЕврАзЭС, который придет до конца года. Кроме того, решен вопрос о выделении российского кредита на строительство АЭС в размере 10 млрд долларов, и первые 500 млн придут в следующем году. Если это все просуммировать, то внешний госдолг Беларуси легко и незаметно перейдет опасную границу в 60% ВВП.

Правда, надо думать, Белстат посчитает ВВП по-другому. Возьмет, например, среднегодовой официальный курс доллара Нацбанка, который с весны этого года не отражал никаких реалий. Будет он 5—6 тыс. рублей. И выведет ВВП снова в районе 50 млрд долларов.

Если к государственному внешнему долгу прибавить долги банковской системы и наших предприятий, иначе говоря, корпоративный долг, то мы получим валовой внешний долг. Он достиг без выше указанных кредитов 33 млрд долларов. По нашим расчетам, уже превысил размер ВВП. Согласно Концепции национальной безопасности Беларуси, валовой (совокупный) внешний долг не должен превышать 55% ВВП. Наиболее опасен, конечно, внешний государственный долг. Основную часть корпоративного долга составляют краткосрочные кредиты, которые субъекты хозяйствования погашают в текущем порядке. Но не надо недооценивать и корпоративные долги. Так, долги государственных предприятий, которые у нас производят 75% ВВП, это, по сути, долги государства. Именно корпоративные долги в свое время ввергли Аргентину в сильнейший финансовый кризис.

В 2012 году Беларусь должна будет вернуть 1,62 млрд долларов в рамках погашения долгов России и МВФ, других кредиторов. В 2013 году платежи по внешнему госдолгу составят 3,03 млрд, в 2014 году — 3,22 млрд долларов. В 2010 году эти платежи были в районе 750 млн долларов, в текущем году должны вернуть 630 млн долларов. Понятно, что нарастающие миллиардные платежи по внешним долгам никак не стимулируют зарубежных инвесторов осуществлять так необходимые Беларуси прямые инвестиции. Эксперты видят две теоретические возможности для Беларуси рассчитываться по внешним займам. Это их реструктуризация, погашение кредитов за счет новых займов, отнесение сроков погашения на более поздний период (если согласятся кредиторы) и погашение долгов за счет доходов, полученных от приватизации госсобственности.

Естественно, это хорошо видит и руководство России. Нынешний валютный кризис поставил Беларусь в очень уязвимое положение. Как отмечают аналитики, с продажей "Белтрансгаза" Беларусь утратила возможность проводить самостоятельную энергетическую политику. Если она через год не вернет консорциональный кредит в 1 млрд долларов, контрольный пакет акций "Нафтана", отданный в залог, перейдет к России. На наших глазах, по сути, дан старт более глубокой экспансии российского капитала в экономику Беларуси. Разговоры российского премьера Путина о единой валюте в рамках Таможенного союза — блеф. Единой валютой здесь может быть только российский рубль. Он не раз косвенно или прямо заявлял о, мягко говоря, желательности присоединения Беларуси к России. Через приобретение основных белорусских активов, с введением российского рубля, через отстранение белорусского руководства от решения главных экономических вопросов... Нельзя не заметить стремления Путина лишить незаметно и постепенно страну политического и государственного суверенитета.

Совсем не случайно после приобретения "Белтрансгаза" Путин пренебрежительно-демонстративно, как шубу с барского плеча, бросил указание главе "Газпрома" Миллеру в два раза повысить работникам уже российского предприятия зарплату (средняя зарплата на "Белтрансгазе" — 2,5 млн рублей). Немедленно прибывший Миллер показательно повышает зарплату не в два, а в три раза. Задумайтесь, ведь это сигнал всем белорусам: не сомневайтесь, идите под крыло России, будет сытная пайка. Это сигнал и другим странам СНГ. Особенно строптивым Украине и Азербайджану.

Все желают своим детям и внукам хорошего будущего. Это естественно. У меня, читатели, для наших наследников две новости. Одна "хорошая": они не будут отдавать долги Западу и Востоку, поскольку Беларусь войдет в состав России. Вторая плохая: они будут по всем существенным вопросам ломать шапку в Первопрестольной и разделять с "великим русским народом" все его геополитические заботы. Это экспансия Китая на российский Дальний Восток, это наркотрафик из среднеазиатского российского подбрюшья, это тлеющий Северный Кавказ и многое другое... А поскольку Путин, скорее всего, воцарится в кресле президента еще на 12 лет — это и противостояние НАТО, поддержка реакционных режимов типа Сирии и Ирана, и т.д. и т.п. Увы, все к этому и идет.

Есть над чем задуматься белорусам. Пока не поздно. И эквилибристика статистов не может быть союзницей.

# З 1 студзеня...

*"Народная Воля" нагадвае, якія змены ў жыцці краіны пачаліся з першага дня новага года.*

## Прачнуліся ў АЭП

З 1 студзеня 2012 г. пачынае дзейнічаць Адзіная эканамічная прастора, якую сфарміравалі тры краіны Мытнага саюза — Беларусь, Казахстан і Расія. Усе тры краіны ратыфікавалі 17 ключавых дагавораў, такім чынам, для паўнавартаснай працы АЭП фармальна прыняты ўсе неабходныя дакументы. З гэтага пакета вельмі важнымі для Беларусі з'яўляюцца дакументы, якія датычацца зняцця бар'ераў пры ажыццяўленні паставак нафты і нафтапрадуктаў, транспарціроўкі газу, электраэнергіі, якія дазволілі значна знізіць цэны на расійскія энерганосьбіты.

Нагадаем, што для забеспячэння функцыянавання і развіцця Мытнага саюза і Адзінай эканамічнай прасторы бакі заснавалі Еўразійскую эканамічную камісію, інтарэсы Беларусі ў якой прадстаўляе былы прэм'ер-міністр Сяргей Сідорскі.

## Газ па новых цэнах

З 1 студзеня Беларусь купляе газ па новых цэнах. Пагадненні аб умовах пастаўкі энерганосьбітаў былі падпісаны ў канцы лістапада мінулага года ў Маскве.

За газ Беларусь будзе плаціць у сярэднім 166 долараў за тысячу кубаметраў. Гэта на 32,5% менш кошту, па якім Беларусь купляла газ у 2011 годзе.

Нагадаем, цана на газ для Беларусі была ўвязана з продажам 50% акцый "Белтрансгазу" за 2,5 млрд долараў. У выніку "Газпром" стаў уладальнікам 100% акцый беларускай кампаніі. Без продажу "Белтрансгазу" з 1 студзеня Беларусі давялося б купляць газ па 330 долараў за тысячу кубаметраў.

## Мінск застаўся без Euronews

З 1 студзеня 2012 года ў 00.02 у сетках МТІС быў адключаны тэлеканал Euronews. Замест еўрапейскіх навін зараз транслюецца кіно ад "НТВ+".

МТІС — найбуйнейшы аператар кабельнага тэлебачання, паслугамі якога карыстаюцца каля 80 працэнтаў жыхароў сталіцы. Чаму кіраўніцтва кампаніі прыняло рашэнне адрэзаць людзей ад нецэнзураваных навін, не паведамляецца.

Нагадаем, што Euronews заставаўся адзіным незалежным навінным тэлеканалам, які свабодна трансляваўся ў Мінску. Тэлеканал даваў інфармацыю пра значныя палітычныя падзеі ў жыцці краіны — масавыя затрыманні падчас акцый пратэсту, суды над палітычнымі вязнямі.

## Трапілі пад ліквідацыю

З 1 студзеня ліквідаваны дзве мытні — Мазырская і Пінская. Мазырская мытня далучана да Гомельскай, Пінская — да Брэсцкай, паведаміла прэс-служба Дзяржаўнага мытнага камітэта Беларусі.

Рэфармаванне мытняў праведзена па рэгіянальным прынцыпе "адна вобласць — адна мытня". Але пункты мытнага афармлення Пінскай і Мазырскай мытняў працуюць у складзе Брэсцкай і Гомельскай мытняў у штатным рэжыме, час працы і спецыялізацыя іх не змяніліся.

Такім чынам, з 1 студзеня 2012 года ў Беларусі дзейнічаюць дзевяць мытняў: Брэсцкая, Гродзенская, Ашмянская, Віцебская, Гомельская, Магілёўская, Мінская рэгіянальная, Мінская цэнтральная і мытня "Мінск-2" (Нацыянальны аэрапорт Мінск).

**ТЫМ ЧАСАМ**

## Ці запрацуе Tax Free?

Міністэрства гандлю ініцыіруе ўвядзенне сістэмы вяртання падатку на дабаўленую вартасць Tax Free. Аб гэтым паведаміла намеснік міністра гандлю Ірына Наркевіч.

"У цяперашні час урадам краіны даручана міністэрствам гандлю, па падатках і зборах, фінансаў, спорту і турызму і іншым органам вызначыць падыходы, неабходныя для ўкаранення такой сістэмы. У прыватнасці, нам сумесна трэба будзе вызначыць пералік тавараў, мінімальную суму пакупкі, крыніцу кампенсацыі ПДВ, пералік крам, якія будуць ўкараняць сістэму вяртання ПДВ Tax Free, а таксама магчымых аператараў праекта. Мяркуецца, што даная сістэма можа пачаць дзейнічаць у Беларусі ўжо ў 2012 годзе", — адзначыла Ірына Наркевіч.

**Да ведама.** Паслугу Tax Free для замежных турыстаў у свеце прадастаўляюць больш за 300 тысяч магазінаў. У Расійскай Федэрацыі аналагічная сістэма пачне працаваць у 2012 годзе.

ЭКОНОМИКА

# Кому и сколько Беларусь должна в 2012 году?

*В 2012 году Беларусь почувствует первые симптомы бремени долговой нагрузки. Если в 2009 году страна заплатила своим зарубежным кредиторам 273,5 млн долларов, в 2010-м — 757,3 млн, в 2011-м — 628,9 млн долларов, то в этом году на погашение и обслуживание внешнего госдолга придется направить уже 1,63 млрд долларов. Причем в эту сумму входит не только часть "тела" основных долгов (925,7 млн), но и набежавшие проценты за обслуживание кредитов (705,9 млн).*



Согласно данным одобренного двумя палатами парламента проекта Республиканского бюджета на 2012 год, больше всего Минску придется выплатить Международному валютному фонду — почти 563 млн долларов (основной долг составит 429,1 млн долларов плюс 133,9 млн придется направить на его обслуживание).

На втором месте по степени долговой нагрузки значатся облигации, выпущенные на внешних финансовых рынках. В следующем году Беларусь должна будет выплатить 440,8 млн долларов, из них 181,6 млн — это проценты.

Займы, взятые у Китая, составляют 228,7 млн долларов. На погашение основного долга приходится 126,7 млн долларов.

По кредитам, полученным от России, и подконтрольного ей Антикризисного фонда ЕврАзЭС Беларусь пока расплачивается только по процентам — 136,7 млн и 106,6 млн долларов соответственно.

На погашение части кредита, взятого у Венесуэлы, в 2012 году Беларуси придется потратить 122,2 млн долларов (92,4 млн плюс 29,8 млн).

Займы от остальных кредитодателей — Всемирного банка (13,1 млн долларов), США (5 млн) и Германии (526 тысяч) — выглядят менее внушительно.

Стоит отметить, что отдельной статьей значатся платежи правительства Беларуси в качестве гаранта по погашению и обслуживанию внешних займов — это 14,8 млн долларов.

Справедливости ради стоит сказать, что долговая нагрузка на бюджет в 2012 году резко возрастет, но еще не достигнет своего пика. Практически двукратное увеличение обязательств повторится и в 2013 году, когда платежи составят более 3 млрд долларов. В 2014 году ситуация лучше не станет. По данным на настоящее время, Беларусь должна 3,2 млрд долларов.

Стоит сказать, что недавно министр финансов Андрей Харковец отметил, что в Беларуси не произошло ухудшения качества долгового портфеля (средний срок допогашения кредитов составляет около 6 лет, стоимость обслуживания — 4% годовых), но при этом обратил внимание на имеющуюся тенденцию увеличения внешнего госдолга Беларуси, объяснив это необходимостью принятия мер по стабилизации валютного рынка и ростом инвестиционного кредитования.

Внешний госдолг Беларуси к концу 2012 года прогнозируется в объеме 14,3 млрд долларов, то есть на 1,8 млрд больше нынешнего. Увеличение может произойти за счет освоения займов, полученных из Всемирного банка и Китая на реализацию инфраструктурных проектов (ориентировочный объем около 1 млрд долларов). Беларусь также может получить два транша кредита Антикризисного фонда ЕврАзЭС — еще 880 млн долларов. Кроме того, в Беларуси начнется строительство АЭС за счет госкредита от правительства России (а это около 800 млн долларов в год). Однако нельзя исключать, что и это не предел. Накануне Нового года Александр Лукашенко сказал, что Беларусь будет не прочь получить кредит от МВФ в объеме от 2,5 до 5 млрд долларов. Кстати сказать, многие эксперты полагают, что новая программа с МВФ послужит для инвесторов зеленым светом светофора для прихода в Беларусь. С другой стороны, в Минске явно надеются, что ресурсы МВФ должны помочь в реструктуризации имеющихся долгов. Но с такой постановкой вопроса вряд ли согласны уже в самом Фонде...

Вместе с тем международные эксперты уверены в платежеспособности Беларуси в краткосрочный период, но их настораживают темпы роста долговой нагрузки, которая сейчас составляет около 30% ВВП (в начале года — около 17,8%). По международным стандартам считается, что пора бить в набат при приближении этого показателя к 40—50%. Потому что в ином случае Беларусь может столкнуться с проблемами стран еврозоны.

**Александр ЗАЯЦ, TUT.BY**

КАНФЛІКТ

# Сыход

## *Рабочыя «Граніта» пачалі масава выходзіць з афіцыйнага прафсаюза*

Супрацоўнікі дзяржаўнага ўнітарнага прадпрыемства "Граніт", што ў Мікашэвічах, пачалі масавы сыход з афіцыйнага прафсаюза ў незалежны. У пярвічную арганізацыю незалежнага прафсаюза, якая знаходзіцца ў стадыі фарміравання, ўжо паступіла больш за 200 заяў. Чаму рабочыя вырашылі шукаць для вырашэння сваіх праблем новую структуру?

Старшыня гэтай новай арганізацыі **Алег Стахаевіч** тлумачыць сітуацыю наступным чынам: *"Афіцыйны прафсаюз не выконваў сваіх абавязкаў, ён не абараняў інтарэсы працоўных. Заробкі ў нас даўно не падвышалі... Акрамя таго, адміністрацыя прымушала людзей працаваць у святочныя дні. Многія лічаць, што стаўленне адміністрацыі да рабочых — як да быдла. Але як толькі нехта пачынаў уздымаць вострыя пытанні, яму адразу затыкалі рот".*

Канфлікт на прадпрыемстве выспяваў даўно. Спачатку толькі адзінкі выказвалі жаданне выйсці з прафсаюзнай арганізацыі, адзінай функцыяй якой было збіраць узносы і нічога не рабіць для паляпшэння ўмоў працы людзей. Масавы сыход з прафсаюза пачаўся два тыдні таму. Гэта не магло не выклікаць рэакцыі з боку адміністрацыі. Алег Стахаевіч распавядае:

— Падчас маёй змены, напрыклад, прыйшлі дырэктар нашага структурнага падраздзялення, начальнік змены, майстар ды іншыя начальнікі. Яны пачалі палохаць усіх, казалі, што мы губляем такім чынам усе надбаўкі, грашовыя прэміі, прыбаўкі да адпачынкаў, палохалі, што не падоўжаць кантракты тым, хто сышоў з прафсаюза. Майстар запатрабаваў, каб мы забіралі заявы і вярнуліся ў афіцыйны прафсаюз. Але людзі жадаюць, каб быў незалежны прафсаюз, ад якога была б карысць усім працоўным, а не толькі адміністрацыі.

На прадпрыемстве ўжо адбыўся сход, на якім выбралі кантралюючыя і кіраўнічыя органы пярвічнай арганізацыі незалежнага прафсаюза гарнякоў. Ён у сваю чаргу зарэгістраваў новую пярвічную арганізацыю ў сваім выканаўчым бюро. Цяпер засталося зарэгістраваць гэтую структуру ў Лунінецкім райвыканкаме. Для гэтага, праўда, трэба мець юрыдычны адрас — менавіта той рубікон, які не здолелі ў свой час перайсці дзясяткі незалежных арганізацый.

Старшыня незалежнага прафсаюза гарнякоў Мікалай Зімін паведаміў "Народнай Волі", што адпаведныя дакументы ўжо накіраваны дырэктару прадпрыемства "Граніт" **Сцяпану ТУРАЎЦУ**. *"Мы папрасілі яго даць нам гарантыю, што прадпрыемства дасць нам юрыдычны адрас, па якім можна будзе зарэгістраваць пярвічную арганізацыю. Вусна дырэктар адказаў, што не ўпаўнаважаны даваць нам такія дакументы. Мы зараз з юрыстамі вырашаем, што рабіць далей",* — распавёў Мікалай Зімін.



Тым часам жадаючых далучыцца да незалежнага прафсаюза на "Граніце" становіцца болей з кожным днём. Старшыня Беларускага кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў **Аляксандр ЯРАШУК** непакоіцца за абарону правоў тых супрацоўнікаў "Граніта", якія вырашылі сысці з афіцыйнай арганізацыі. *"Мы не хочам займацца папулізмам і гуляць лёсамі людзей. Заўсёды, калі спрабавалі стварыць незалежны прафсаюз, адчувалі прэсінг — ціснулі на саміх супрацоўнікаў, на іх сваякоў, палохалі звальненнем... Мы бачым, што ў Мікашэвічах сыход мае масавы характар, і гэта — самае галоўнае, гэта добра, бо інакш перадушаць усіх паасобку. Сёння зарэгістраваць незалежны прафсаюз складаней, чым зарэгістраваць новую палітычную партыю. Ды і новыя прафсаюзы для ўлад сёння больш небяспечныя, чым палітычныя партыі. Таму цяжка сказаць, чым скончыцца гэтая сітуацыя".*

**Любоў ЛУНЁВА.**

## З кніжкай пад пахай

1 студзеня ў Беларусі пачаўся зусім не год Дракона. У нашай краіне 2012 год абвешчаны Годам кнігі.

Кіраўнік дзяржавы даручыў Савету Міністраў зацвердзіць рэспубліканскі план мерапрыемстваў па правядзенні гэтага года. Па задумцы, абвяшчэнне ў Беларусі Года кнігі павінна стаць пераканаўчым доказам таго, што пытанні захавання духоўнасці грамадства, развіцця беларускай літаратуры і культуры — прадмет асаблівага клопату дзяржавы. Праўда, цэны на кнігі зараз такія, што мала хто можа купіць.

## Усе справы — пад адным дахам

1 студзеня ў Беларусі пачаў працу новы дзяржаўны орган — Следчы камітэт Беларусі, які аб'яднаў следчы апарат Міністэрства ўнутраных спраў пракуратуры і Камітэта дзяржаўнага кантролю.

Нагадаем, што старшынёй Следчага камітэта стаў былы начальнік Аператыўна-аналітычнага цэнтра пры прэзідэнце Валерый Вакульчык, яго першым намеснікам — былы намеснік генеральнага пракурора, начальнік следчага ўпраўлення Генпракуратуры Андрэй Швед. Невялікі следчы апарат застаўся толькі ў Камітэце дзяржаўнай бяспекі, якому адведзены справы па шпіянажу, дзяржсакрэтах і таму падобныя.

ПАЛІТКУХНЯ

# Заварушыліся?..

*Мінулы год завяршыўся палітычнай інтрыгай. Усе афіцыйныя асобы катэгарычна абвяргалі меркаванні, што выбары ў Палату прадстаўнікоў могуць прайсці па новых правілах ці па партыйных спісах, але раптам высветлілася, што такая магчымасць не выключана.*

Так, напрыканцы мінулага года першы намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Аляксандр Радзькоў паведаміў, што Беларускае рэспубліканскае грамадскае аб'яднанне "Белая Русь" у 2012 годзе будзе пераўтворана ў палітычную партыю з новай назвай — "Беларуская партыя народнага адзінства".

*"Мы павінны ўпісвацца ў традыцыйныя еўрапейскія партыйныя сістэмы",* — заявіў Радзькоў.

Нечакана і старшыня Цэнтральнай выбарчай камісіі Лідзія Ярмошына змяніла катэгарычны тон, разважаючы над тым, ці могуць прайсці выбары ў Палату прадстаўнікоў па партыйных спісах.

*"Зрабіць можна ўсё. Спачатку патрэбна мяняць Канстытуцыю. Аднак для гэтага не абавязкова праводзіць рэферэндум. Раздзелы 3- і 4-ы, дзе ідзе гаворка найперш пра адкліканне дэпутатаў, можна змяніць парламенцкім шляхам. То бок выключыць адтуль палажэнне пра адкліканне дэпутатаў, калі весці гаворку пра правядзенне выбараў па прапарцыянальнай сістэме. Гэта — першае,* — паведаміла Лідзія Ярмошына Радыё Свабода. — *Затым, натуральна, патрэбна ўносіць змены ў заканадаўства. Абмежаванняў у гэтым плане ў нас няма. Адзінае, што існуе такое агульнае міжнароднае правіла — за паўгода да выбараў закон не мяняць. Хаця, скажам, у той жа Расіі заканадаўства мяняецца падчас выбараў — маецца на ўвазе ўстаноўка вэб-камер на выбарчых участках.*

*Але я адразу хачу сказаць, што на наш адрас ніякіх просьб ці запытаў наконт таго, каб прыкінуць, прапрацаваць змены ў закон, ніадкуль не паступала. А без нас падрыхтоўка заканадаўча не можа весціся. Таму я не думаю, што выбары ў 2012 годзе пройдуць па новых правілах".*

**Ігар МАРОЗАЎ.**

СЛЫШАЛИ?

## Правительство объявило режим экономии бензина

*Совет министров Беларуси утвердил показатели по снижению в 2012 году потребления светлых нефтепродуктов (бензина, керосина, топлива дизельного, биодизельного и моторного) государственными структурами.*

Утверждены следующие показатели по снижению потребления светлых нефтепродуктов: Минстройархитектуры — 10%, МВД — 5%, Минжилкомхоз (с учетом организаций, имущество которых находится в коммунальной собственности) — 10%, Минздрав — 5%, Мининформ — 7%, Минкультуры — 5%, Минлесхоз — 10%, Минобороны (без учета керосина) — 5%, Минобразования — 7%, Минпром — 10%, Минсвязи — 8%, Минсельхозпрод (с учетом организаций, подчиненных комитетам по сельскому хозяйству и продовольствию облисполкомов, управлениям сельского хозяйства и продовольствия райисполкомов) — 10%, Минспорта, Минторг, Минтранс и Минприроды — 10%, МЧС — 5%. Для ГПО "Белтопгаз" и ГПО "Белэнерго" — 10%, Госкомвоенпрома и Госпогранкомитета — 5%. Для концернов "Белгоспищепром", "Беллегпром", "Беллесбумпром", "Белнефтехим" и Белкоопсоюза, Управления делами Президента, облисполкомов и Минского горисполкома — 10%.

ПОМНІМ...

*Заўтра, 4 студзеня, экс-міністру ўнутраных спраў Беларусі Юрыю Захаранку споўнілася б 60 гадоў...*

# Амаль 13 гадоў без Захаранкі



***Уладзімір ХАЛІП***

З генералам Захаранкам Аляксандру Лукашэнку не пашанцавала. Прызначаючы яго міністрам унутраных спраў Рэспублікі Беларусь, ён быў абсалютна ўпэўнены, што прымае аптымальнае кадравае рашэнне. Асабістая справа, якую ён старанна вывучаў, наконт гэтага ніякіх сумненняў не выклікала.

Юрый Мікалаевіч Захаранка нарадзіўся ў гарадскім пасёлку Васілевічы Гомельскай вобласці. Пасля школы быў прызваны на ваенную службу. Праходзіў яе на Балтыйскім флоце. Паступіў у Валгаградскае вучылішча, а затым і ў Акадэмію МУС. Працаваў у следчых органах. Прафесіянал высокага класа, характарыстыка бездакорная. Менавіта такі чалавек можа надзейна прыкрыць тылы і забяспечыць бяспеку ў той упартай барацьбе, якую вядзе новаабраны прэзідэнт. І выканае любы загад. Не думаючы. Не дапусціць нават цень сумневу. Бо гэта яго, прэзідэнта, загад.

Але тут А.Лукашэнка яўна даў маху. Самаўпэўненасць падвяла. І савецкая перакананасць у надзвычайнай аб'ектыўнасці анкеты. З яе вынікала, што Юрый Захаранка з простай, працавітай сям'і. Амаль такі самы вясковы хлопец, як і ён. А гэта значыць, што будзе страшэнна ўдзячны яму за такі кар'ерны ўзлёт.

Анкета, створаная ў глыбінях савецкіх часоў, — гэта яшчэ не ацэнены ў поўнай меры бюракратычны шэдэўр. Там, здавалася, улічаны ўсе магчымыя параметры. Прасочаны сувязі і вытокі. Чалавек як на далоні. Анкета бясстрасна высвечвае ўсё, апроч другарадных, на думку кадравікоў, дэталяў біяграфіі. Аднак менавіта ў гэтых дэталях і ўтойвалася сутнасць будучага невырашальнага канфлікту.



Сказаць, што яго бацька і маці з сялян, працавітых людзей, — гэта амаль нічога не сказаць. І ў вёсцы бываюць дужа розныя людзі. Бацькі Юрыя Захаранкі — выхадцы з тых беларускіх і ўкраінскіх сялянскіх сем'яў, якія свята шанавалі маральны закон — вядомыя ўсім запаведзі. Добра ведалі, чым розніцца дабро і зло. Яны стойка вынеслі ўсё тое, што шчодра адмерала ім савецкая рэчаіснасць. Галечу. Голад. Гады вайны. Рабства ў гітлераўскай Германіі. Пасляваеннае бяспраўе. Прайсці ўсе жахі сталінскага і нацысцкага пекла дапамагла ім непахісная ўпэўненасць, што ёсць рыса, якую ні пры якіх умовах чалавек пераступіць не можа. І сваім сынам яны здолелі перадаць гэтую перакананасць.

А чалавек, які ўзышоў на вышэйшую прыступку ўлады, шукаў сабе паплечніка, гатовага выканаць любы яго загад. Без разваг і сумневу. Юрый Захаранка на такую ролю ніяк не падыходзіў. Бездакорная анкета ўводзіла ў зман. Ды толькі Аляксандр Лукашэнка і думкі не дапускаў аб магчымых разыходжаннях у поглядах. Прадстаўляючы Юрыя Захаранку Міністэрству ўнутраных спраў у якасці новапрызначанага шэфа, ён, кажуць, нават выгукнуў з гарачнасцю: "З гэтым генералам я пайду да канца!"

Але ў той паход, куды рыхтаваўся Лукашэнка, Юрый Захаранка ісці не збіраўся. Канфлікт імкліва разгараўся. На пасадзе міністра генерал быў крыху больш за год. Аб прычынах сваёй хуткай адстаўкі ён расказаў журналістам. *"Падобна на тое, што я заставаўся адным з нямногіх, хто гаварыў Лукашэнку праўду ў вочы. Тую праўду, якая біла па самалюбстве прэзідэнта. Аднойчы ён сказаў: "Ты павінен выконваць любы мой загад". Я адказаў: "Аляксандр Рыгоравіч, людзей расстрэльваць не буду. І Канстытуцыю парушаць не буду". А ён мне ў адказ: "Калі не выканаеш мой загад, на цябе надзенуць кайданы". Вось такі стыль кіраўніцтва. Больш слабыя не вытрымлівалі і ламаліся".*

Нават пасля адстаўкі ў яго быў выбар. Ён мог проста адысці ў цень. Застацца ў баку ад усіх гэтых вар'яцтваў. Не рызыкаваць жыццём. Яго маці, Улляна Рыгораўна, угаворвала сына не канфліктаваць з тымі, хто заставаўся ва ўладзе. Пераехаць да яе ў Васілевічы. Знайсці дзе-небудзь паблізу непрыкметную работу. Жыць.

Генерал Захаранка быў чалавекам абавязку і гонару. Ён вельмі добра ведаў, якога роду загады так настойліва патрабавалі выконваць. Пакінуць такую ўладу ў спакоі і не перашкаджаць яе дыктатарскім планам... ён не мог.

Юрый Захаранка стаў адным з самых актыўных лідараў апазіцыі. Пачаў арганізоўваць грамадзянскае супраціўленне ваяўнічай дыктатуры. У канцы дзевяностых беларускія дэмакраты на бліжэйшых прэзідэнцкіх выбарах маглі вылучыць некалькі патэнцыяльных кандыдатаў. Юрый Захаранка быў адным з найбольш рэальных прэтэндэнтаў на гэтую пасаду.

А тыя міністры, якіх прызначалі пасля яго, пра законнасць ужо не разважалі. І загады не бралі пад сумненне. Яны служылі аддана і безаглядна. Умацоўваючы і ўдасканальваючы шматлікія спецпадраздзяленні, старанна нарошчвалі кулакі лютага рэжыму. Заўважыўшы самую нязначную грамадзянскую актыўнасць, выводзілі на вуліцы і плошчы бранятэхніку, сабак, узброеныя да зубоў карныя структуры. Мірных людзей пазверску збівалі, катавалі, кідалі ў турмы. Потым паслухмяны выканаўца дыктатару надакучваў. І яго замянялі новым, яшчэ больш паслужлівым.

Генерал Захаранка быў першым і апошнім міністрам МУС, які ведаў, што вышэй за ўсіх правіцеляў — закон.

Аб'яднаная апазіцыя, высокі аўтарытэт сярод шараговых супрацоўнікаў міліцыі, ды яшчэ ствараемы Саюз афіцэраў уяўлялі занадта вялікую небяспеку для прэтэндэнтаў на доўгую і неабмежаваную ўладу. У такіх умовах яны сябе адчуваць упэўнена не маглі.

...Была вясна. Звычайны дзень. 7 мая 1999-га. Юрый Захаранка паставіў машыну і ішоў да свайго дома. Гэта не якая-небудзь глухая ўскраіна. Поўны жыцця гарадскі квартал. Шматпавярховыя дамы. Пешаходныя дарожкі. Дзіцячыя пляцоўкі. Шмат прахожых.

Мяркуючы па ўсім, у яго быў добры настрой. Не мог не заўважыць, што ўпершыню за ім няма хваста. КДБ — у той дзень раптам спыніў сочку. І машына, якая звычайна ішла следам, нарэшце знікла. Да дому заставалася ўжо зусім мала. На дарозе яго сустрэў нейкі чалавек. Не выключана, што ён яго добра ведаў. І цалкам давяраў. Інчай не мог бы ён спыніцца і размаўляць з ім так бестурботна.

Аперацыя захопу была прадумана да дробязяў. Вокамгненна з'явілася група здаровых мужыкоў, скруцілі Юрыя Захаранку і запіхнулі ў машыну, якая стаяла паблізу. Яна газанула па пешаходнай дарожцы і знікла за паваротам...

Пра лёс Захаранкі больш ніхто нічога не чуў.

Так у нашай краіне знікаюць людзі. Сярод белага дня. У цэнтры горада. На вачах разгубленых прахожых...

### З АСАБІСТАЙ СПРАВЫ

*Нарадзіўся 4 студзеня 1952 года ў пасёлку Васілевічы Гомельскай вобласці.*

*Тэрміновую ваенную службу праходзіў на Балтыйскім флоце.*

*У 1977 годзе скончыў Валгаградскую вышэйшую школу МУС, у 1987-м — Акадэмію МУС СССР.*

*У розныя гады працаваў следчым у Светлагорску і Гомелі, намеснікам начальніка Упраўлення па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю МУС СССР.*

*З 1994-га па 1996-ы — міністр унутраных спраў Беларусі. Генерал-маёр.*

*У лютым 1998 года ўвайшоў у склад створанага апазіцыяй Нацыянальнага выканаўчага камітэта Беларусі. Член Нацыянальнага камітэта Аб'яднанай грамадзянскай партыі.*

*Знік 7 мая 1999 года.*

# Усё засталося там

***Вольга ЗАХАРАНКА***

Не хачу пра гэта гаварыць. Успамінаць пра гэта не хачу. Колькі гадоў прайшло? Амаль 13... Усё няпраўда — час не лечыць. Той жа змрок, той жа боль. Вакол — чужая краіна. Чужыя людзі. Час для нас нібыта спыніўся.

Ніхто і падумаць не мог, што можа здарыцца такое. Мой муж чалавекам наіўным не быў. Ён разумеў, што творыцца ў краіне... І быў гатовы да самага горшага. Ну, пасадзяць. Не першы, не апошні. Колькі людзей кінута ў турмы ні за што. Не хацелі маўчаць, толькі і ўсяго. Маглі схапіць і яго. Прыдумаць працэс, засудзіць. Але каб на такое адважыцца!..

І толькі мама яго разумела ўсё лепей за нас. Яна сэрцам адчувала бяду — жыццё яе навучыла. На каленях упрошвала: "Юра, сыночак, я прашу, кінь усё, хадзі да мяне, у нашу старую хату. Уладкуешся дзе-небудзь на работу, будзем жыць. З кім ты змагаешся?"

Усё дарэмна. Не толькі я з дочкамі, нават яна спыніць не змагла. Не мог ён адседжвацца ў глушы ў ціхай хаце... І калі ён не адгукнуўся нават на просьбу маці адысці ад гэтай праклятай палітыкі, дык можна зразумець, чым для яго былі абавязак і гонар. На вялікі жаль, для шмат каго цяпер абсалютна пустыя словы.

Нас тады папярэджвалі. Розныя людзі. Адкрытым тэкстам: ёсць план знішчэння генерала Захаранкі. Ды мы і самі ўжо заўважалі, што вакол ідзе нейкая змрочная валтузня. Сочка рабілася ўсё больш нахабнай. Яны нават не хаваліся. Ішлі ўслед, як сабакі. А ён на нашы перасцярогі адказваў заўсёды адно: "Нічога крымінальнага за мною няма, і ў сваёй краіне я буду хадзіць з паднятай галавой".

Вось так і хадзіў. Ён быў адважны чалавек. Калі яшчэ на флоце служыў, там адбылася аварыя, якая ледзь не забіла яго. У час падводных вучэнняў, калі ён быў пад вадою, перастала дзейнічаць сістэма падачы паветра. І ён не спалохаўся, не разгубіўся. У ледзяной вадзе выжыў. Тады пра гэта пісалі нават у ваенных газетах. Якая б ні здаралася напасць, пачуццё ўласнай годнасці ён не губляў. Быў сапраўдным камандзірам. Размаўляючы з падначаленымі, не дазваляў сабе голас павысіць. Зразумела, што ўсе яго любілі.

Зламаць такога чалавека немагчыма. Спачатку яны спрабавалі вывесці яго з палітыкі нейкім іншым чынам. Прапаноўвалі накіраваць паслом у Швейцарыю. Якія ў Беларусі стасункі са Швейцарыяй? Зразумела, усё гэта — адкрытая спроба подкупу. Еўропа, бесклапотнае жыццё... Ад яго трэба было толькі адно — маўчанне. Пустая задума! Маўчаць ён не мог. Яны гэта зразумелі.

Адкуль у яго такая бескампраміснасць і воля? Лічу, усё з самага дзяцінства, з сям'і. Ніколі не блытаў зло і дабро. Цаніў прыстойнасць. Быў акуратны да крайнасці. Калі іголачка недзе ляжыць, там яна і павінна знаходзіцца заўсёды. Гэта я магу кінуць дзе давядзецца. Ён — ніколі. Так яго выхавалі бацькі. Звычайныя людзі, добрыя сялянскія карані. Бацька — беларус, пісьменны, вельмі добра разбіраўся ў палітыцы. Маці з Украіны. А які ў яго быў дзед — Пятро Акулавіч! Таксама з простай сям'і. Але гаворка ў яго была наўздзіў вобразная. Я ўсё думала — адкуль? А вось такія людзі былі. Ніякія даброты на галаву ім не сыпаліся. Усё самі, сваім розумам, сваімі рукамі, цяжкай працай здабывалі. Да вайны ён на будаўніцтве працаваў, канал капаў — той самы, славуты, ад Масквы да Волгі. Дык яго жонка з нашага пасёлка Васілевічы пехатой да яго хадзіла. Гэта ж кіламетраў сямсот, калі не болей. Возьме кайстру, нейкіх харчоў для яго. І ідзе пехатой да самай Масквы. Нялёгкае было ў іх жыццё.

А мама ў яго надзіва прыгожая жанчына. Добрая, клапатлівая. Але сыноў трымала ў строгасці. Юра сваіх бацькоў вельмі любіў і паважаў непамерна. Неяк — мы тады яшчэ не ажаніліся — бацька паглядзеў на яго і кажа: "Сын, што гэта ты зарос? Табе пастрыгчыся трэба!" Уяўляю якога-небудзь хлопца, якому бацька сказаў бы такое ў прысутнасці нарачонай. А Юра нават не запярэчыў: "Тата, тата". І пайшоў стрыгчыся. У мяне бацька ваенным лётчыкам быў. І ў сям'і таксама строгасць шанавалася. Але каб такое паслушэнства!..

Так атрымалася, што з яго мамай я пазнаёмілася раней, чым з ім. Скончыла інстытут, атрымала дыплом зубнога ўрача. Накіравалі мяне ў Васілевічы. Маладога спецыяліста ў бальніцы сустрэлі ветліва. Потым спахапіліся: а дзе ж мне жыць? Я ж тады зусім маладзенькая была. Усе мне спачувалі. Адзін супрацоўнік, які гаварыў па-ўкраінску, усё бедаваў: "Така гарна дзівчіна, а шчо ж вона будэ робыты?" А потым успомніў пра Улляну Рыгораўну, павёў мяне да яе. У яе, кажа, усе дзяўчаткі, якія кватаравалі, удачна замуж павыходзілі.

Мне і праўда там вельмі спадабалася. У хаце чыста, парадак. Адразу ж відаць, калі на гэта часу і рук не шкадуюць. Гаспадыня строгая, але дабрыні незвычайнай. Клапатлівая і ўважлівая. Добра мне жылося ў яе. А потым з арміі Юра вярнуўся.

Пазнаёміліся. Відаць, я яму спадабалася. Здаецца, толькі тыдзень і прайшоў, а ён ужо прапаноўвае руку і сэрца. Такі вось рашучы хлопец. Станісты. Сям'я харошая. Што ж, я згадзілася. Позна ўжо было, а ён усю радню сабраў, каб парадаваліся за яго. Потым вяселле было — усё як належыць. З абрадам. Мама яго ўсё наказвала сыну: "Ты ж глядзі, не крыўдзі сіротку!"

І бацькі яго, і ўся радня вельмі мяне палюбілі. Мне лёгка было ўвайсці ў гэтую сям'ю. Вядома, у жыцці ўсякае бывае. І ў нас з Юрам здараліся сваркі. Я пакрыўджуся і адразу пачынаю званіць у Васілевічы. І мама, выслухаўшы мяне, строга гаварыла: "Добра, Вольга. Разбяруся. Я яму і пракурор, я яму і суддзя!" І ўсё! Цень аблачынкі прабягаў імгненна, і зноў пачынаўся сонечны, ясны дзянёк. Слова маці для яго было святое.

У тыя далёкія ўжо часы даводзілася мне чуць, што пра нас гаварылі людзі: ды яна ж за ім, як за мураванай сцяною. Так, гэта праўда. Усё браў на сябе ён. Галава сям'і — не пустыя словы. Потым, калі ўсё гэта здарылася, я адчула напоўніцу, што значыць жыць без гэтай мураванай сцяны, калі ты з бядою самнасам. І што б ні здарылася, ужо ніхто не прыйдзе на дапамогу.

У тыя гады, калі ён яшчэ ўзначальваў камітэт па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю, Беларускае тэлебачанне рыхтавала нейкую перадачу пра яго. Напрасіліся з інтэрв'ю і да мяне. Я папрасіла Юру дапамагчы мне падрыхтавацца да гэтых здымкаў. Ён тады рассмяяўся: "Ды ты хоць ведаеш, якое ў мяне званне?" У гэтай яго іранічнай рэпліцы, вядома ж, была доля ісціны.

Я старанна падрыхтавалася. Запісала сабе нават нейкі тэкст. Але ўваліўся да мяне натоўп настырных тэлевізіёншчыкаў, проста абрынуў на мяне сляпучае святло сваіх сафітаў, і я імгненна забылася пра свае шпаргалкі. І ўсё пачала па-свойму, з чыстага ліста. Дык вось шмат чаго перадача гэтая і мне адкрыла. Тое, аб чым дома ён ніколі не расказваў, каб дарэмна нас не трывожыць. З якой рызыкай і ўсякімі іншымі складанасцямі звязана гэтая яго работа.

Аднак самая вялікая небяспека пагражала яму зусім не з таго боку. Ён быў прафесіяналам. І як змагацца са звычайнай крымінальшчынай, ведаў дасканала. Шмат чаго ён пабачыў. Розныя справы даводзілася яму разблытваць. Здавалася, набыты з гадамі вопыт не мог не паўплываць, і далёка не лепшым чынам, на тую сістэму каштоўнасцяў, якую вынес ён са свайго дзяцінства, са сваёй сям'і. Ды, відаць, надзвычай трывалымі былі гэтыя прынцыпы жыцця. Скептычны погляд на гэты далёка не лепшы свет ён не займеў. І веру ў людзей не страціў. "Паглядзі, — я казала яму незадоўга да страшнага дня, — усё ідзе на спад, і на плошчу з кожным годам выходзіць усё менш народу..." Не, ён не мог пагадзіцца са мной. "Усё сваім часам, Вольга. Грамадства павінна выспець". Нешта яно занадта доўга выспявала. Помню, як пасля пахавання Генадзя Карпенкі прыйшоў ён дадому. Доўга маўчаў. Я разумела, што з ім адбываецца. Нават не спрабавала загаварыць. А потым ён сказаў мне: "Усё, цяпер я застаўся адзін".

Ён залішне давяраў тым, хто быў з ім побач. А я проста па-жаночы, інтуітыўна заўважала, што далёка не ўсе з іх заслугоўваюць гэты давер. Аднойчы мы ехалі з ім некуды, і па дарозе ён вырашыў заехаць на адзін з ведамасных аб'ектаў, дзе тады ішоў рамонт. Там сустрэў нас хтосьці з высокіх чыноў. Яго, так бы мовіць, паплечнік. Заўважыўшы, што Юрыю Мікалаевічу не спадабаўся колер агароджы, чын гэты схапіў малярскі пэндзаль і пачаў уласнаручна перафарбоўваць агароджу. Я проста жахнулася ад такой страшэннай дагодлівасці. "Пабачыш, — сказала я потым Юру, — гэты першым табе здрадзіць". Ён абурыўся тады: "Як ты можаш так гаварыць пра людзей!" На вялікі жаль, праўда была на маім баку.



Здраджвалі яму многія. І найперш тыя, хто настырна набіваўся яму ў сябры. А вось людзі звычайныя, не чыноўныя, асабліва тыя, з кім сябраваў ён ад самага дзяцінства, яшчэ ў школе, — механізатары, працаўнікі, так і засталіся верныя таму іх даўняму сяброўству. І я заўсёды ведала: калі да іх звярнуцца, прыйдуць і дапамогуць.

Калі ўсё гэта здарылася, многія з ранейшых знаёмых нават званіць пераcталі. А вось суседзі нашы, самыя звычайныя, якія да чыноўніцтва і іншых высокіх колаў дачынення не мелі, нават дзверы ў сваю кватэру не зачынялі. У нас з імі агульны калідор, і яны баяліся, што раптам не пачуюць, калі я паклічу на дапамогу.

І вось яшчэ быў у нас дзіўны выпадак. Яму вельмі рэдка сніліся сны. А тут, ці не напярэдадні знікнення, раптам прачнуўся ён сярод ночы і нават ускрыкнуў. Я пытаюся: "Што з табой?", а ён кажа: "Кажан!.. заляцеў у акно!.." Мы ўключылі святло. Усё агледзелі. Няма нічога. Я паспрабавала яго супакоіць: "Гэта сон, усяго толькі сон".

А потым надышоў той самы дзень — 7 мая. Ён пазваніў. Сказаў, што вяртаецца. Папрасіў згатаваць яду — ён ужо блізка ад дома. Я нешта там разагрэла. Паставіла на стол. Пачала чакаць. А яго ўсё няма...

Пра тое, што было, спрабую не думаць. Каб не звар'яцець. Мне вельмі цяжка. Пастаянна баліць сэрца. Часам здаецца, што кіну тут усё і вярнуся. У мой пакінуты дом. Зноў убачу суседзяў, якія пакідаюць адчыненымі свае дзверы, каб прыйсці на дапамогу, калі мне стане нясцерпна. А потым усё праходзіць, і я пачынаю думаць: а як жа мы можам паехаць? Я ж не ведаю, што там нас падпільноўвае? І вось ужо вырас мой унук Кірыл, якога мы прывезлі сюды малышом. Ён гаворыць з акцэнтам. Што мы там будзем рабіць з маім маленькім немчыкам?..

А тады, майскай ноччу, у наша адчыненае акно ўсё ж такі праслізнуў вялікі кажан. Кажаніска. Так і застаўся ён у маім доме, у маёй краіне. Прайшло ўжо столькі гадоў, а я ўсё ніяк не магу прагнаць яго са свайго жыцця.

# Мюнстэр, канец лета

***Кірыл**, унук генерала Захаранкі*

Тут у мяне добрыя сябры. Але сустракацца з імі цяпер я буду рэдка. Мы скончылі першую ступень. І настаўнікі вырашылі, хто і дзе будзе вучыцца далей. Я пайду ў гімназію. Лічу, што вучыўся нядрэнна, калі мяне туды накіроўваюць. Але з сябрамі мне расставацца шкада. У гімназіі шмат каго ўжо не будзе побач. Мама кажа, да гэтага трэба прывыкнуць. Нічога не зробіш. Рана ці позна людзям прыходзіцца расставацца. І дарослым, і дзецям.

Ці ведаю я пра Беларусь? Вядома ж, ведаю. Мама і бабуля мне шмат расказвалі. Я ведаю, што ёсць такі горад Мінск. Мы паехалі з яго, калі я быў яшчэ маленькі. Там у мяне быў дзед — Юрый Захаранка. У мамы захаваўся запіс. Нехта зняў нас на відэакамеру. Вельмі даўно. Дзед смяецца. А я зусім-зусім маленькі, поўзаю ў яго на грудзях. І ён гаворыць мне: "Расці, Кірыл! Будзе каму на маёй магіле крапіву вырваць". Чаму ён такое сказаў, мне не зразумець. Ад яго я не гэта хацеў бы пачуць.

Так, я ведаю, дзе Беларусь. Там жыве яшчэ адна мая бабуля — Улляна. Як правільна сказаць? Прабабуля дакладна. Мы гаворым з ёю па тэлефоне. Хацеў бы ўбачыць яе. Паехаць туды. Мне з ёю лёгка — яна ведае нямецкую мову. Званю, чую яе голас: "Гутэн таг, Кірыл!" Нібыта яна недзе побач, на суседняй вуліцы. Гэта дрэнна, што я не магу яе бачыць.

На той плёнцы, дзе са мною дзед, ён жа зусім яшчэ малады. А яго ўжо няма. Калі б нічога не здарылася, усё магло быць па-іншаму. Аднойчы ён прыехаў бы да нас. Я паказаў бы яму стары Мюнстэр. Мы б з ім пра што-небудзь гаварылі. Не ішлі моўчкі. Па Зальцштрасэ на Домплац. Хай сабе нават проста на Бюльт, да аўтобуса. І, можа, сустрэліся б там хлапчукі з нашага класа. І ўбачылі б, што ўсё праўда, у мяне ёсць дзед. Такі, як на гэтым яго фотаздымку.

У гімназіі ў мяне з'явяцца ўжо новыя сябры. Ці буду я расказваць ім пра тое, хто я і адкуль? Не, наўрад. Навошта? Неяк мы ішлі пасля школы дадому. І хтосьці пачаў расказваць, кім быў яго дзед. Не ведаю, чаму, але я не змог прамаўчаць: "А мой дзед быў міністрам і генералам". Усе засмяяліся. Адзін з гэтых хлопчыкаў сказаў: "А мой дзед быў каралём!"

Не, яны ўсе харошыя хлопцы, мае сябры. Проста шмат аб чым не трэба расказваць. Там другое жыццё. Усё было вельмі даўно.

ЁСЦЬ ПЫТАННЕ!

## Тыя ж, там жа

*“Народная Воля” паведамляла, што ЦВК паранейшаму будзе ўзначальваць Лідзія Ярмошына, а сакратаром Цэнтральнай выбарчай камісіі па-ранейшаму застаецца Мікалай Лазавік. Гэта сапраўды паказальна — калі людзі, якія не правялі ні адну кампанію так, каб цывілізаваны свет прызнаў яе чэснай, застаюцца на сваіх пасадах. Але дзяржаўныя СМІ сцвярджаюць, што склад ЦВК зменены, у яго ўключаны новыя людзі. Хто яны? Каго прадстаўляюць?*

**Віктар Прошын, г.Мінск.**

Сапраўды, склад Цэнтральнай выбарчай камісіі крыху змяніўся. Але ўсе прызначэнцы па-ранейшаму з’яўляюцца прадстаўнікамі ўлады. Так, у лік членаў Цэнтральнай выбарчай камісіі па рашэнні Савета Рэспублікі ўвайшлі: першы намеснік начальніка галоўнага ўпраўлення юстыцыі Брэсцкага аблвыканкама **Антон ГУШЧЫН,** намеснік начальніка галоўнага ўпраўлення юстыцыі Мінскага аблвыканкама **Алена ДМУХАЙЛА,** намеснік дырэктара па ідэалогіі УП “Мінскінжпраект” **Аляксандр ДУДКО,** загадчыца кафедры гаспадарчага права Гомельскага дзяржаўнага тэхнічнага ўніверсітэта імя. Сухога **Святлана КАЦУБА,** начальнік упраўлення кадраў і ідэалагічнай працы ГУ “Галоўнае гаспадарчае ўпраўленне” Кіраўніцтва справамі прэзідэнта **Святлана ХІНЕВІЧ** і начальнік упраўлення адукацыі Віцебскага аблвыканкама **Іван ШЧУРОК.**

Нагадаем, што, у адпаведнасці з Канстытуцыяй, правам прызначаць яшчэ шэсць членаў Цэнтрвыбаркама, у тым ліку старшыню, надзелены прэзідэнт. Лідзія Ярмошына і Мікалай Лазавік — гэта людзі з ягонай “квоты”.

ПРЕДЛАГАЮ!

## На пост президента — женщину!

И в России, и в Беларуси на пост президента надо избирать женщину. Тем более что сейчас это мировая тенденция. России подошла бы Оксана Дмитриева. А нам, белорусам, подошла бы вполне Светлана Калинкина.

**Антон ПУЗАН, житель Гомеля.**

КАЛЬКУЛЯТОР

*По данным Мингорисполкома, новые правила расчета за воду вызвали недовольство у многих граждан. Более 8 тысяч человек обратились с письменными жалобами, в которых высказали свое несогласие с расчетами. В целом в первый месяц действия новых правил экономить на воде у минчан не получилось: в октябре жители столицы потребили воды на 1360 кубометров больше нормы, за которые уже необходимо заплатить по повышенным тарифам. Но могло ли быть по-другому?*

*Эту проблему по просьбе “Народной Воли” анализирует юрист **Анатолий НАУМЕНКО.***

# Нормы воды: нелогично и незаконно?

Постановление Совета Министров Республики Беларусь от 28.09.2011 г. №1300 продолжило устойчивую тенденцию роста тарифов на коммунальные услуги в нашей стране, внеся ряд существенных изменений в порядок расчетов населения за оказанные коммунальные услуги и действующие тарифы на них.

Так, был кардинально изменен порядок оплаты услуг водоснабжения и канализации. С октября минувшего года на каждого из проживающих (зарегистрированных) установлен предел объема водопотребления (квота) — 140 литров холодной и горячей воды в сутки. В месяц это 4200 литров, или 4,2 куб. метра в сумме по счетчику. Так как по действующему законодательству жилец оплачивает суммарное количество воды (холодной и горячей), а за подогрев определенного счетчиком количества воды он платит отдельно.

Допустим, что в октябре жилец-пенсионер, проживающий один в квартире, израсходовал 2200 литров холодной воды и 3500 литров горячей. Следовательно, всего за месяц он израсходовал 5,7 куб. метра холодной воды и такое же количество воды ушло у него в канализацию после использования. Исходя из вышеуказанной нормы (квоты) **он обязан был заплатить за 4,2 куб. метра воды по “квотируемому” тарифу в размере 585 белорусских рублей за 1 куб. метр** 4,2х585=**2457 рублей**., плюс **за слив ее в канализацию по тарифу 305 белорусских рублей за кубометр, или** 4,2х305=**1281 рубль**. “Лишние” 1,5 куб. метра (5,7-4,2=1,5) оплачиваются по той же схеме, но уже по тарифам, обеспечивающим “полное возмещение экономически обоснованных затрат” на их оказание. То есть по более высоким. И это уже будут совсем другие суммы: 1,5 куб. метра воды по “полному” тарифу в размере 1440,9 рубля за 1 куб. метр (1,5х1440,9=2161 руб.), плюс за слив ее в канализацию по тарифу 1105 рублей за 1 куб. метр (1,5х1105=1658 рублей).

Подведя окончательный итог, получаем, что одинокий жилец-пенсионер обязан заплатить за потребленную воду и ее слив 7560 рублей, из них по “квотируемому” тарифу 3740 рублей и по “полному” тарифу 3820.

Законодатель может возразить, что это незначительные суммы, копейки.

Во-первых, возможно, для кого-то это и “копейки” (как уже прозвучало в СМИ), а для пенсионера, тем более для социального пенсионера, каждая тысяча рублей, что называется, на счету. Чтобы понять цену этой тысячи рублей, предлагаю законодателям посетить Комаровский рынок и пообщаться с людьми в очереди за так называемым “дешевым хлебом”. Они “просто и доходчиво” объяснят, как живут и как экономят.

Во-вторых, динамика роста тарифов на воду только за три месяца (начиная с августа) убеждает, что сегодня речь идет о **3820** рублях, но завтра это может быть уже совсем другая сумма. Так, тариф на воду в августе был **467,5** рубля, в сентябре — **585**, в октябре “полный тариф” уже в три раза выше — **1440,9** рубля. То же происходило и с тарифами на слив воды (канализацию). В августе — **242** рубля, в сентябре — **305** рублей, в октябре “полный тариф” уже в три с лишним раза выше — **1105** рублей.

Таким образом, нет никаких гарантий, что в 2012 году эти тарифы не вырастут многократно и еще больнее не ударят по малоимущим. Ведь реформы ЖКХ находятся только в самом начале, а, как говорят, “аппетит приходит во время еды”.

В-третьих, работники коммунальной сферы, определяя среднесуточную норму в 140 литров воды на человека, должны были, прежде всего, отталкиваться от принципов “социально ориентированной экономики” нашей страны и хотя бы озаботиться определением разумных и жизненно обоснованных норм. Они, кстати, уже ранее были определены государством как “минимальные социальные стандарты”. Нынешняя норма потребления почему-то оказалась ниже, чем это определено минимальными стандартами. И совершенно не понятно, как такое произошло.



Объяснения, что при установлении минимума потребления воды наши чиновники ориентировались на Германию, на средние европейские нормы потребления, не выдерживают никакой критики. Разве у нас зарплаты, как в Германии? Разве мы можем себе позволить все белье носить в прачечную? Разве мы можем, как европейцы, обедать и ужинать в ресторанах, а дома готовить только чай-кофе и завтраки? Что будут есть зимой наши семьи, если хозяйки не законсервируют в летний сезон огурцов-помидоров? А ведь все это в конечно итоге и объясняет те или иные объемы потребления воды. Только когда в зарплатах и пенсиях мы сравняемся с Европой, тогда и по воде можно будет ориентироваться на среднеевропейские нормы. Так что подобные объяснения введенных норм, на мой взгляд, некорректны и неуместны.

Один из моих знакомых пенсионеров, который проходил службу подводником, привел в связи с новыми “водными нормами” такой пример: на атомной подлодке норма потребления воды на человека в сутки составляет 100 литров. Это в условиях необходимости постоянного “опреснения” и режима строжайшей экономии воды! Этот человек задал риторический вопрос, который я хочу довести до законодателей: неужели энергозатраты на производство воды в гражданских условиях выше, чем на атомной подлодке, или же наши граждане чем-то “качественно отличаются” от военных моряков?

В-четвертых, согласно действующим социальным нормам, температура горячей воды должна быть не менее 50 градусов. У кого из крана сразу течет горячая вода? Сколько литров воды надо слить, прежде чем пойдет вода нужной температуры? Кто за это отвечает и кто в этом виноват?

Эти вопросы не решены, отвечать на них никто не хочет. А вот деньги взять готовы.

Именно поэтому у людей, доходы которых невысоки, обязательно встает проблема: смогут ли они лишний раз помыться?

В-пятых, коль скоро государство в лице правительства поставило перед обществом проблему оплаты сверхнормативного потребления коммунальных услуг (и намерено расширять эту практику), то почему оно не ставит вопрос о поэтапной отмене “социальных стандартов”, начиная со сферы обеспечения населения горячей (а не теплой) водой. Прежде чем заглядывать в карман своим гражданам, государство должно было обеспечить им равные условия взаимоотношений с коммунальщиками. А то получается так: мы тебе предоставим коммунальную услугу “по минимуму” (социальному стандарту), а возьмем с тебя “по максимуму” (полному тарифу). Где логика, не говоря уже о морали? Не напоминает ли это брутальный афоризм-пожелание: “Рыбу съесть и кости сдать!!!”

Постановление Совета Министров Республики Беларусь от 28.09.2011 г. №1300 вступает в прямое противоречие с Постановлением Совмина РБ от 30.05.2003 г. №724 (с дополнением от 20.06.2007 г. №811) “О системе государственных социальных стандартов по обслуживанию населения республики”. Этим документом однозначно определено, что: “норма обеспечения водой для граждан, проживающих в жилых домах, оборудованных централизованным водоснабжением и канализацией, не менее 180 литров в сутки на одного человека, в том числе не менее 90 литров в сутки — на горячее водоснабжение”. Таким образом, Совет Министров РБ еще в 2007 году определил минимальный уровень обеспечения граждан водой для их нормального существования в размере не менее 180 литров в сутки. Законодательно эта норма определена как “гарантированный государством минимальный стандарт”, на который никто не вправе посягать. И вдруг без отмены прежней вводится норма в 140 литров, чем существенно ухудшаются условия для удовлетворения основных потребностей граждан в воде.

Согласно действующему законодательству, постановление №1300 с его нормой в 140 литров как более поздний по дате издания нормативный правовой акт имело бы большую юридическую силу, чем постановление №724 с его нормой в 180 литров. Но: норма в 180 литров защищена Законом РБ “О государственных минимальных стандартах” и имеет специальный статус — “гарантированный государством минимальный стандарт”.

Более того, минимальный стандарт на водоснабжение был установлен еще в 2007 году. Абсолютно нелогично со стороны законодателя в 2011 году вести речь о снижении предела водообеспечения ниже нижнего предела, когда мы на весь мир громогласно заявляем об “опережающем развитии” нашей страны.

Таким образом, я как юрист считаю, что норма Постановления №1300 о 140 литрах воды как о пороговом минимуме нелегитимна по своей правовой сути и должна быть отменена.

**Анатолий НАУМЕНКО, юрист.**

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

## У час безнадзейны будуем басейны

**Урад хоча ўсіх дзяцей навучыць плаваць — “не ўвогуле, а з пайменным улікам”, — запэўніў Анатоль Тозік. Для гэтага ў кожным раёне Беларусі хочуць пабудаваць басейны.**

*Улада ў нас, на зайздрасць свету,*
*Усё будуе для людзей.*
*Да прыкладу, няма сакрэту,*
*Што любіць наш народ хакей.*
*І цяга гэтая ў народзе*
*Жыве з сівых часоў, спрадвек.*
*Зімою коўзаўся на лёдзе,*
*Не адыходзіў люд ад рэк.*
*Заместа клюшкі — кол дубовы,*
*Заместа шайбы — каравяк.*
*Цяпер жа час інакшы, новы,*
*Прагрэс у свеце, як-ніяк.*
*Нашто з каравяком важдацца?*
*Заможна зажылося нам!*
*Таму лядовыя палацы*
*Павырасталі тут і там.*
*Рашыла ўлада, што й басейны*
*Народу трэба пазарэз.*
*І зноў жа аргумент надзейны:*
*Люд у ваду заўсёды лез.*
*У копанцы ці ў рэчцы дзесьці*
*(Наогул — дзе перападзе)*
*Яму хоць не давай паесці,*
*А дай паплёхацца ў вадзе.*
*Хоць край у нас рачны, азёрны*
*(Такіх, як Нарач, шмат спакус),*
*Але ў басейне ўжо, узорна*
*Хай плёхаецца беларус.*
*Вось гэтак далучыць да спорту*
*Імкнецца ўлада нас, сябры!*
*Дык што ж далей?*
*Напэўна, корты*
*Пакрыюць плошчы і двары.*
*А мы, дарослыя і дзеткі,*
*Зацягнем дружна паясы*
*І пабяжым купляць ракеткі,*
*Мячы, красоўкі і трусы.*
*Надыдзе час такі, вядома,*
*Калі пакажам пэўны спрыт,*
*У рэшце рэшт і іпадромы*
*Аздобяць наш здаровы быт.*
*І зноў ва ўсіх калгасах коні*
*Адразу ж з’явяцца тады.*
*На скачках пляскаць у далоні*
*Пачнуць стары і малады.*
*Такія маем перспектывы,*
*Такі “спартовы” далягляд!*
*І будзе наш народ шчаслівы,*
*І будзе ў нас рэкордаў шмат.*
*Ды ўсё ж сумненняў ёсць нямала,*
*Спытаць хачу напрыканцы:*
*Ці пойдзе люд наш згаладалы*
*На тыя корты і ў “дварцы”?*
*Так можа стацца ў хуткім часе,*
*Што будзе кожны беларус*
*Змагацца ў горадзе, калгасе*
*За сала шмат і хлеба кус.*
*Дык хай жа ўлада ставіць мэту*
*Пабольш наўзводзіць для людзей*
*Баксёрскіх рынгаў.*
*Будзе гэта*
*І больш карысна, і танней.*

* * *

*Для спорту ўзводзіць пабудовы*
*Яна, уладная рука,*
*Бо ёсць, як кажуць, дух спартовы*
*У нашага кіраўніка.*
*Але мінецца час пануры,*
*І будзе новы кіраўнік.*
*Так хочацца, каб да культуры*
*У “новага” імпэт узнік...*

ВАС ЦІКАВІЦЬ...

## У нулях заблытаемся

***Мяне цікавіць, калі ж у абароце з’явяцца купюры ў 200 тысяч рублёў? Здавалася, Нацыянальны банк абяцаў, што гэта адбудзецца на пачатку года. Але пакуль усё ціха. Тым часам пайшла пагалоска, што будуць і 500-тысячныя купюры. Ці так гэта?***

**Аляксей Місюкоў, г.Мінск.**

Начальнік Упраўлення інфармацыі Нацбанка Аляксандр Цімашэнка паведаміў, што галоўны банк краіны не адмовіўся ад планаў выпусціць новую 200-тысячную купюру, але і ў планах не было пусціць гэтыя грошы ў абарот 1 студзеня. *“Час выхаду новай купюры — канец першага квартала 2012 года. Арыенціровачна гэта сакавік”,* — заявіў Аляксандр Цімашэнка. У сваю чаргу старшыня Нацыянальнага банка Надзея Ермакова запэўніла журналістаў, што выпуск купюр наміналам у 500 тысяч ці 1 мільён беларускіх рублёў пакуль не плануецца.

ПЕРАПІСКА

## Няўжо надышоў канец свету?

*“Мы, жыхары вёсак Сасноўка, Гарыдзяняты, Казяняты, Расла звяртаемся да вас, дарагая рэдакцыя, за парадай.*

*У нас бяда. Усе пасадкі абапал дарогі, ад Смаргоні да Жодзішак, знішчаюць па ўказцы зверху. Так нам сказалі мясцовыя начальнікі. Нагналі тэхнікі, выкарчоўваюць елачкі, бярозкі з каранямі, усё згортваюць у кучы, навезлі шын ад машын і падпальваюць. Усё навокал зацягнула чорным дымам, не прадыхнуць.*

*Многія жыхары з нашых вёсак некалі самі садзілі гэтыя дрэўцы. А зараз са слязьмі на вачах кажуць: “Мусіць, ужо надышоў канец свету?” Там, дзе ўжо знішчаны пасадкі, узаралі да самага асфальту. Відаць, нас будуць карміць атручанай збажыной, хлебам. У цывілізаваных краінах нават скаціну не пасуць абапал дарогі. Ад пасадкі да асфальту ўсяго нейкіх чатыры метры. Няўжо гэтая палоска зямлі, на якой яшчэ і слупы стаяць, выведзе нас з крызісу?*

*Мы звярталіся да раённага начальства, яны кажуць, што “ўказ зверху”! У жыхароў вёсак асноўны транспарт — ровар. На ім мы ездзім у касцёл у Жодзішкі, у крамы. Нас абараняли пасадкі ад ветру, а зімой ад снегу. А зараз?!*

*Куды глядзяць эколагі? Дапамажыце нам”.*

*(З пісьма ў рэдакцыю газеты "Народная Воля".)*

### АД РЭДАКЦЫІ

**Ну колькі можна пра адно і тое ж гаварыць? Ці ж у Мінску павінна вырашацца пытанне, звязанае з выкарчоўваннем дрэў абапал прасёлачнай дарогі? У той жа Смаргоні ёсць чыноўнікі, адказныя і за экалогію, і за зялёныя насаджэнні, і за прыдарожны парадак... Ну пад’едзьце вы да іх, спытайце, чаму прынята такое рашэнне? Калі дрэвы старыя, спарахнелыя, хворыя — вядома ж, іх трэба ўбіраць. Магчыма, ёсць і нейкая іншая прычына. Калі прыдарожныя пасадкі ў нармальным стане, няма падстаў для іх знішчэння, то ў такім выпадку — біце ва ўсе званы, выкарыстоўвайце ўсе свае правы. А іх у вас, шаноўныя вяскоўцы, шмат. Вы — сіла, можаце “паставіць на месца” любога начальніка, які дзейнічае не па-гаспадарску, наносіць шкоду агульным інтарэсам.**

**Калі б у “Народнай Волі” была магчымасць зазірнуць у кожную вёску — з задавальненнем зрабілі б гэта. На жаль, рэдакцыя не паспявае займацца нават тымі праблемамі, вырашэнне якіх сапраўды патрабуе журналісцкага ўмяшання. Таму, шаноўныя аўтары ліста са Смаргонскага раёна (ён без канкрэтных подпісаў — як быццам ад усіх жыхароў вёсак Сасноўка, Гарыдзяняты, Казяняты, Расла), у вас дастаткова сіл для вырашэння пытання на месцы. Дзейнічайце актыўна, у адпаведнасці з правамі, якімі надзялілі вас Канстытуцыя і законы.**

**Ну і наконт “канца свету” — вы, як нам здалося, пажартавалі.**

АДКРЫТЫМ ТЭКСТАМ

## Не чакаць, а дзейнічаць!

*“Год пасля Плошчы: палітычныя ацэнкі ўдзельнікаў” — так гучала тэма “круглага стала”, які правялі 19 снежня 2011 года некалькі партый. Размова ішла ў асноўным вакол двух пытанняў:*

1.Якія мэты ваша структура ставіла, прымаючы ўдзел у прэзідэнцкіх выбарах і заклікаючы людзей на Плошчу ў 2010 годзе? Ці дасягнулі вы гэтай мэты?

2.Якія мэты ваша структура ставіць перад будучай палітычнай кампаніяй (парламенцкімі выбарамі)? Якім шляхам вы разлічваеце дасягнуць сваёй мэты?

Выслухаўшы С.Калякіна, А.Мілінкевіча, А.Лябедзьку, В.Івашкевіча, А.Янукевіча, прадстаўніка ад “Гавары праўду!” і іншых, я не пачуў аніводнага слова пра тое, што плануецца рабіць дзеля пашырэння колаў дасведчанага, добра інфармаванага электарату.

Так, я згодзен са сцвярджэннямі, што шматлюдная плошча можа прывесці да кардынальных змен нашага ладу жыцця, але хто з вас, спадары партыйцы, вымавіў хоць слоўца пра канкрэтную працу, скіраваную менавіта на павелічэнне шматлюднасці Плошчы?

Ведаючы пра інфармацыйны голад у краіне, чаму вы нічога не робіце дзеля таго, каб як мага больш людзей глядзелі “Белсат”, чыталі тую ж “Народную Волю”? Яна, газета, вас іншы раз крытыкуе? Дык правільна робіць, і не трэба крыўдзіцца.

А скажыце, калі ласка, як актыўна тыражуеце вы фільмы, тэксты звышактуальных артыкулаў, якія расплюшчваюць людзям вочы? На мой погляд, вяла, вельмі вяла вядзецца гэта работа.

Чакаеце, што людзі самі прыбягуць на Плошчу? Калі гэта здарыцца, то яны не захочуць, каб побач з імі стаялі вы.

**Алег ГАЕЎСКІ, інжынер-электронік.**

*Мінск.*

ЭХО

## Не лучше ли угомониться?

Статью “С закрытыми глазами” под рубрикой “Нельзя забыть” Нины Корнеевой в “Народной Воле” (№№179—180 от 22.11.11 г.) я полностью поддерживаю. Видимо, тот, кто предложил сбор средств на памятник Сталину, если не сам бывший сотрудник МГБ, НКВД, КГБ, то идейный последователь сталинщины.

Такие до сих пор не представляют, как можно было выживать зимой в болотном лесу в шалаше из еловых лапок. На это некоторые скажут, что и Ленин жил в шалаше и составлял программу всемирного социализма. Так пусть же инициатор сбора средств испытает на своей шкуре такие прелести!

Я помню начало войны и ее конец, хоть и был тогда мальчишкой. Некоторое время мы жили в почти сожженной немцами деревне. Днем — немцы, ночью — партизаны... Помню, как, отступая, немцы угоняли с собой и население. В километре от нашей деревни немцы остановились. Это была маленькая деревня Виляга, где в сараях разместили угоняемое население, а перед операцией “Багратион” всех вывезли в соседний район.

Вернувшись после освобождения от оккупантов, мы увидели: не уцелело ни одно строение, зато лебеда выросла чуть ли не в пояс. Вырыли землянки, ели блины из мерзлой бульбы, пекли хлеб из зерен вереска, варили крапиву. Пухли с голоду, буквально все переболели малярией.

Не успели хоть чуток обжиться, как власти начали обкладывать селян налогами. Налоги были как денежные, так и натуральные. Платить надо было за землю, садовые деревья и кустарники, а также сдавать бесплатно государству мясо, молоко, яйца, мед, если имелись пчелы.

Если кто налог не мог уплатить вовремя, то приходила важная комиссия с налоговиками и забирала все, что еще сохранилось в хате более ценное. Например, швейную машинку. Основной экипировкой на ногах тогда у всех были лапти из липового лыка и автомобильной резины, а душу грела телогрейка.

Так что остается сказать: “Спасибо товарищу Сталину за наше “счастливое детство”! И то, что я написал, это всего лишь мизер из пережитого.

Мое предложение такое: собрать по рублю инициаторам ценной инициативы и его сподвижникам по возведению монумента Иосифу Виссарионовичу — и пусть они угомонятся и не смешат народ.

**С уважением —**

**Владимир Федорович КУЛАЖИН, житель Гродно.**

ГАНЬБА!

## У якіх сем’ях яны раслі, у якіх школах вучыліся?

Паважаныя дзяўчаты-феміністкі з Украіны, якія выступілі 19 снежня 2011 года на прыступках КДБ з нязвыклай для Беларусі акцыяй, заслугоўваюць нашай удзячнасці. За іх мужнасць, за неабыякавасць да бяспраўя, якое пануе ў нашай краіне ў адносінах да тых, хто не згодны з гвалтоўнымі дзеяннямі да сябе беларускіх улад.

А вось гвалт, які ўчынілі нейкія безгаловыя прыслужнікі ў адносінах да дзяўчат, ускалыхнуў увесь цывілізаваны свет. Цікава было б ведаць па імёнах тых “інтэлектуалаў”, хто распрацаваў такі дзікунскі план пераследу вясёлых украінак. Тыя цвёрдалобыя малойчыкі, што так “крута” здзекаваліся з дзяўчат, аблівалі іх зялёнкай, абразалі нажом ім валасы, брыдкасловілі, прыніжалі іх годнасць, — хто яны? У якіх сем’ях яны раслі, у якіх школах вучыліся? Ці раскажуць яны сваім дзецям пра свае “гераічныя” ўчынкі?

Сорамна за тых людзей, на вачах у якіх “маскі” хапалі гэтых мужных, але бездапаможных дзяўчат. Чаму ўкраінак ніхто не суправаджаў на вакзале? Яны ж прыехалі ратаваць нас, запалоханых і абыякавых...

Ад імя ўсіх свядомых беларусаў я выказваю Вам падзяку, шаноўныя Іна Шаўчэнка, Аляксандра Нямчынава і Аксана Шачко!

Мы ганарымся Вашым учынкам!

Вы дапамаглі нам, хоць і, прабачце, дарагой цаной.

Мы просім у Вас прабачэння за тупую расправу, за здзек з Вас.

Ганьба хапунам!

**Кацярына Аляксандраўна ЛЯВОНЕНКА.**

*Мінск.*

